# Беларускай Мо́ладзі.

Вы —маладые, вам у вашым жыцьцю прыдзецца убачыць ешчэ гэтулькі, як здужывае чэлавечы розум сілы прыроды. Новые аткрыцьця, новые выдумкі у тэхніцы, новые спосабы у медыцыні зробюць нашэ жыцьцё і даўжэйшым і прыятнейшым. Жаль адно, што ад гэтаго жыцьця з надворку атстаець жыцьцё с сярэдзіны—жыцьцё думак, ідэй.

Ці дажывіцё с часам і вы тэй пары́, калі кожны гвалт над станам, родам, нацией, верай ня будзе лічыцца якой небудзь гасударственнай заслугай, а будзе лічыцца тым, чым ён ёсьць папраўдзе: брыдою і праступкам.

Мы лёгка прывыкаем да ўсяго, што дзеіцца дужэ часта навокала нас. Там, дзе мы сваімі вачыма не бачым скрыўджанаго і церпячаго, нас сумленне ня мучыць, асабліва тады, калі мы можэм супакоіць сябе, сказаўшы: «не я гэта зрабіў». Але крыўда заўсяды будзе крыўдай, і хто з ёю не змагаецца, той згаджаецца з ёю і пакрываець яе. Хітрае сумленне заўсяды знайдзець выкрут. Не здарма-то Дон-Кіхот ваеваў з ветракамі. Хто руціцца аб сваім спакою, таму гэтые ветракі мігацяць у ваччу і там, дзе ёсьць рэальнае зло, с каторым трэба змагацца. І чым бы ня скончылася змаганне з гвалтам і непраўдай, усёж такі змогуць свабода і дабро: іначэй жыцьцё само сабе пярэчыла бы і скончылася б, а гэтта мы бачым, што жыцьцё трывае і хавае ў сабе насеньне вечнасьці. Вось таму-то, хацябы і цяжка прышлося у змаганні, нельга вам ні

апушчаць рук, ні пакідаць барацьбы. Свабода асобы, свабода і роўнасьць мужчыны і жонкі, свабода усякой нації і народу будуць такімі, якімі яны здалеюць стаць, і ў канцы-канцоў сходаюць усякіе перашкоды і насільства.

Вось таму-то вашы старання падняць нацыянальнае пачуцьцё беларускаго народу будзюць у мяне жывую сымпатію ня гледзячы ужо на тое, ці удасца вам гэта споўніць, якіе з гэтаго выйдуць рэзультаты для гасударства і т. д. Над гэтым трэба працаваць, бо для народа нема культурнаго развіцьця без пачуцьця сваей нацыянальнай асобнасьці, самабытнасьці. Як дзіцянё падрастаючы пытаець: «хто я такі», і выдзеляючы самога сябе пачынаець сьвядома адносіцца і да ўсяго сьвету навокала яго, так і народ зьменяецца у сьвядомую і карысную часьць чэлавецтва, і с сырога матэр'ялу стаецца работнікам жыцьця свайго тады толькі, калі ён пачынае чуць сваю нацыянальную солідарнасьць. Яно і так быць можэ, што, прайшоўшы гэты успомнены этап, ён захочэ аткінуць усё нацыянальнае, мейсцовае, узяўшы шырэйшае нацыанальнае—гасударственнае, як гэта рабіцца з амэрыканскімі эмігрантамі,*) але проста пераскочыць ад нацыянальнаго небыцьця да гасударственнаго пачуцьця ён ня можэ: дзеле таго добра таму гасударству, дзе народнасьці могуць разьвівацца у волі і згодзе — і чым свабадней, тым і лепей. Гэтак наіональнасьцям цяпер лепш жыць у Аўстрыі, чымся у цяперашней „нацыяналістычнай“ Рассеі, і як гасударства, цяперашняя Аўстрыя звязана мацнейшымі вузламі, чымся наша бедная Рассея: у

*) Рэдакція ня можэ згадзіцца з гэтакімі думкамі паважанаго прафэсара на прышласьць нацыянальнасьці; нам здаецца, што нацыянальнасць—грамада людзей, аткрыта і сьведома прызнаўшыхся да супольнаго для іх усіх складу душы—будзе трываць, разьвівацца і паглубляцца дасюль, дакуль будзе трываць, развівацца, паглубляцца чэлавецтва індэвідуальна для кожнаго па сабе, а не адным шаблёнам для ўсіх. — Мы верым, што нацыянальнасьць—рэч вечная.



ёй угнетанне „інородцаў“ (нерассейцаў) можэ паразрываць у мільёнаў усякае пачуцьцё дабравольнаго злуча з Рассеей.

Як зьністажэнне гэтаго гнібеньня „нацыяналізму“, як пробу да высшаго ідэёваго, культурнаго жыцьця чэлавечэства новых супрацоўнікаў, як работу, карысную для змацаваньня, узбагачэньня і агульнаго падняцьця гасударства, — я вітаю працу беларускай моладзі — працу, ідучую да нацыянальнай прасветы беларускіх масс.

Так, гэтай ідэей варта жыць!

17/V, 1912 г.

А. Погодін.

# К пытаньню аб нацыональныхъ адносінах у Беларусі і Літве.

---

Да апошняго часу у Беларусі і Літве сустрэкаем дужэ асабліваe з'яўленьне: дзельба народа на клясы і соціяльные группы саўсім праве зліваецца с дзяльбой яго на нацыональные группы. Такім парадкам элемент польскі—гэта блізка адны паны—дваране і зямельная буржуазія; клясы торговы і прамышленны—займаюць жыды; беларусы і літвіны агулам—гэта ня лічучы малай часьціны фабрычных і мешчан — адны мужыкі—хлебаробы. Расейцы у гэтым краі—элемэнт чыноўнічы, і толькі крышку памешчыцкі.

Ёсьць ведома, такое палажэньне злажылася дзякуючы так ужо выпаўшым варункам мейсцоваго жыцьця; чуць толькі варункі зменяцца—то гэта палажэньне ня можэ трываць далей некранутым: даволі будзе успомніць хаця бы тое, што літоўская і беларуская народная масса, дасюль спячая, прачнулася, пачала жыці незалежным культурным жыцьцём, борзда шчэпаецца на клясы, с которых кожны стараецца аслабаніць для сябе мейсцэ — дасюль занятае прэдстаўнікамі другіх нацыональнасьцей.

Дзякуючы таму, што кранулася, калі гэтак можна сказаць, соціяльно-нацыональная спакой-вага, мы нашымі вачыма бачым, як сябры аднэй соціяльной группы, апанаваной монопольна якой нацыональнасьцю, укліняюцца у чужую павэдлуг нацыональнаго складу соціяльную группу. Такое абустароньняе укліненьне, калі яно не штучнае, цячэ заўсёды ня



крыўдючы нікога. Але нехай жэ толькі да сфэры чыста экономічнай прыбьюцца сьведомые элементы захапляючаго нацыоналізму—то гэты спакойны і згодны працэсс вызываець няхібна самае гарачае нацыональнае змаганьне. Гэта зразу кінецца у вочы кожнаму, хто паруціцца прыглядзецца бліжэй да адносін меж хрысцянскімі нацыональносцямі нашаго краю і жыдоўскай торгова-прамышленнай кляссай. За колькідзесят апошніх гадоў ўраз жэ за такімі важнымі здарэньнямі, як скасаваньне прыгону—паншчыны, каторае аткрыла селяніну свабодны выхад з вёскі, польскае паўстаньне, што пусьціла у сьвет вялікую часьць польскіх зямельных паноў—экономічнае жыцьцё краю пад напорам усё раўнуючаго капіталізму, самым натуральным парадкам памагала хрысьцянам: палякам, літвіном, беларусам, расейцам укліняцца у торгова прамышленные сфэры. Пачаткі гэтаго процэсса ня мелі і званьня болю дзеля таго, што у зменах чыста экономічных працавалі і прычыны чыста экономічные. Так плыў бы і разьвіваўся гэты процэсс і далей, каліб нацыоналізм хрысцянскіх народнасьцей—найбольш палякаў і расейцаў, ды йшчэ с патпорай рэлігійнаго фанатызма, ня увёў у жыцьцё вокліча, што стварыць хрысцянскае купецтва—гэта ужо не экономічная канечнасьць, а нацыональная справа. Стуль то пашла пропаганда бойкотоваць жыдоў і паттрыммаць за усяку цэну „сваіх", хоць бы гэта было саўсім безнадзейнае у грамадзянскім значэньні паттрымываньне аддзельных асоб, ня здольных да жыцьця і развіцьця торгоўлі.

Так, у Вільні, дзе і без помачы нацыоналізма лік хрысьцянскіх крам, майстэрні і фабрык расьце дужа борзда, меж палякамі злажылася ліга купцоў і прадаўцоў, што паставілі сабе вокліч: «kupujcie tylko u swoich» *). Клерыкалы і нацыоналісты стараюцца навэт скрывіць усю душу важнай для народных масс справы коопэратыўнай; яны рады кладуць у яе проціжыдоўскую істоту, роблючы з усяго гэтаго прыладу,

---

*) „Купляйце толькі у сваіх!"

каб правесьці чэлавека-ненавістные думкі. Агітуюць за коопэрацію не як за способ абараніцца ад здзірства ўсіх тарговых пасрэднікаў, а ак за способ змагацца з жыдамі. Таму то, ёсьць ведама, ўсе жыды разам, глядзяць косымъ вокам, а то проста непрыязна, на рост хрысцянскай тарговой і фабрыканцкай кляссы.

А гэтакім парадкам жыцьцё збіваецца з свае дарогі, экомічные адносіны ад накінутых лішніх націоналістычных элементаў развіваюцца крыва, хвора.

Справы агульна-краёвые, справы развіцьця мейсцовай тарговулі затрымліваюць і робяць з яе пляц для націоналънаго змаганьня.

Такім чынам захопліваючый драпежный націоналізм, убіўшысь у круг экономічных адносін робіць немагчымай згодную супольную працу народнасьцей нашаго краю на экономічнай ніве. Ёсьць ведама — з гэтаго, што мы сказалі нельга ізноў думаць, што, каліб не ўмешаўся націоналізм, то жыды з атрытымі рукамі спаткалі бы ўход хрысьцян у тарговую і фабрычную кляссу.

Тутака і без націоналістычнай агітаціі была і будзець зайздрасьць, а, калі хочэце, і вайна. Але тады вайна ідзець не між палякам, расейцам і жыдам, а між крамнікам і крамнікам, меж фабрыкантам і фабрыкантам. У гэтакім змаганьні звоюець не паляк, не жыд, не літвін, не беларусъ, а той з іх, хто дужшы і лепш прыладзіўся да жыцьця і да працы. Такое змаганьне не адбіваецца на добрых, спакойных адносінах меж націоналънасьцямі краю: яно ідзець за граніцамі націоналъных спраў.

У які кут экономічнаго жыцьця краю мы бы ні заглянулі—усюды бачым тое самае: З аднаго боку націоналістычная палітыка расейскаго ураду, што саджаець расейцаў-старавераў у Літве, на зямлі, патрэбнай літоўскім мужыкам—хлебаробам, будзіць у апошніх ненавісць ужо не да оффіціальных прэдстаўнікаў рассейскаго гасударства, а да расейскаго народу,— з другога боку ізноў работа польскіх паноў на Беларусі, што выпісываюць с Польшчы парабкаў палякаў і прадаюць землю кавалкамі толькі мужыкам с Польшчы, а не суседзям—мужыкам беларусам *), ведама, будзіць у апошніх ненавісць не толькі да паноў палякоў на ніве нязгоды супольных клясовых інтэрэсаў, але і да палякаў, як націоналънасьці.



Падобных прыкладаў можна знайсьці даволі.

Калі выжываньне націоналънаго шовінізма з экономічнай сфэры, лічыцца ужо гвалтоўнай патрэбай, то вызваленьне ад націоналістычных ідэй там, дзе справа аб культурных народных пытаньнях — гэта ужо не патрэба, а канешнасьць, без якой нема у нашым краю згоды меж народнасьцямі.

Аб гэтым нам прыдзецца даўжэй пагутарыць, бо дзякуючы асаблівым адносінам жыцьця Беларусі і Літвы — націоналізм там стаў нейкім хворым вырадкам, ён так глыбока убіўся у псыхіку цэлых націоналъных груп, што сам ён стаў тым нечым, чаго розумом ня мераецца—ну бытцым нейкім сьляпым інстынктам жывёлы. У пытаньнях экономічнаго жыцьця краю мы сустрэкаем націоналізм толькі ясна вядомых партыйных груп—за тоеж у пытаньнях культурно-націоналъных прыроднае націоналънае пачуцьцё вырадзілася у націоналъны шовінізм і апанавала як пошэсьць цэлые націоналъные группы.

Калі мы пакінем у старане жыдоў—як народнасьць ясна пашчапаўшуюся на клясы і грамадзянскіе группы — мы убачым, што у Беларусі і Літве раздзел па вышыні культурнасьці і раздзел па клясах (соціальны) памешчаецца як раз у граніцы раздзелу павэдлуг націоналънасьці.

Восяка польскі і расейскі элемент краю стаіць над народамі—хлебаробамі: літвінамі, а ўжо найбольш над беларусамі, як усякая інтэлігэнція над массай народа.

Але у ваўсякам сучасным грамадзянстве ёсьць парадак у раздзеле працы: Інтэлігэнція працуець больш галавою, шэрая народная масса — рукамі. Яна і даець інтэлігенціі ўсё,

---

*) Такіе прыпадкі мы бачылі у Ашмянскім, Полацкім, Лідзкім паветах.

што патрэба, каб жыць, а за тое бярэць ад іх прасьвету. Здаецца зусім справедліва спадзевацца, што і ў Беларусі і ў Літве „тутэйшая“ мейсцовая інтэлігэнцыя, хаця яна па національнасьці і не літоўская і не беларуская, павінна плаціць народнай массе прасьветай за цяжкую фізычную працу.

Яно то так і павінна было быць—яле тут мы падыходзім да самай балячай скулы нашых національных адносін.

Некалісьці у серэдніе векі панавала права: „мой край — мая і вера“, у нашым жэ краю умацаваўся йшчэ дзічэйшы погляд: „мая земля—мая і національнасьць“. Без мала кожны польскі пан лічыць, што даваць прасьвету літвінам і беларусам насколькі яго рука захопіць, можна і трэба толькі па польску. Ён і ня рупіцца аб тое, што польская мова для народу чужая, ён і не ўзіраецца ні на дух народу ні на яго національные асаблівасьці

Так самюсенька робіць і расейскі пан, ужываючы толькі заместа польскай—расейскую урадовую мову. І не будзець грэху, калі мы скажэм, што ўся польская і расейская інтэлігэнція нашаго краю трымаецца гэтых жэ самых поглядаў, прынціпаў. Расейская інтэлігэнція ня можэць тут нічога ідэйнаго сказаць на сваю абарону. Польскій жэ захопліваючый національізм можна йшчэ бараніць тым, што палякі можэ і не змагаліся бы так умацаваць і расшырыць свой «stan posiadania» (круг панаваньня), каб не гнібеньне расейскім урадам усяго польскаго.

Ёсьць ведама, што ўсе рэпрэссіі знадворка на палякаў прымусілі іх з усей моцы узяцца за сваю ўнутрэннюю работу, каб развіць сваю культурную мацатў, каб перэхаваць свае національнае „Я“. Аднак усё гэта не дасць ім права— асабліва цяпер, калі будзіцца літоўская і беларуская національнасьць, забыцца аб сваіх павіннасьцях, як краёвай інтэлігэнціі. І калі палякі рады выкручываюцца, што яны працуюць для прасьветы мейсцовай польскай народнай массы, гэтаж сьмех адзін: Тож гэта польская масса прастага народу



лічыцца дзесяткамі—многа соткамі-тысячаў, а літоўска-беларуская маса больша за 12 мільонаў. Ціж можна лічыць грамадзянамі краю такую інтэлігэнцію, што працуець для сотак тысяч народу, а есьць хлеб цэлых мільлёнаў... і за хлеб гэты не даець назад таго, што павінна даваць інтэлігэнція: прасьветы?

Як мы казалі—польская інтэлігенція, самая дужая у краі, адварачываючыся ад мовы і національнасьці спрадвечнаго народу краю, на сваю абарону тычэць у вочы канечнасьць працаваць для свайго польскаго народу у Літве і Беларусі. Такі аднабокі вузкі пагляд— самы той пагляд прыблуды заваеваценя, нават не пагляд разумнаго колёнізатора, а ўжо ніколі не погляд шчыраго грамадзяніна краю. Гэты пагляд ешчэ можна слухаць, бачучы раней успомненую проціўпольскую палітыку ураду.

Але так думаюць толькі лепшые с палякаў: шмат больш за палавіну глядзіць на сваю прасьветную работу, як на магучы спосаб спалячыць край. Беларускі і літоўскі народ рвецца да прасьвэты; казённая школа даець навукі мала, даець навуку аднабокую, у чужой яму незразумелай мове.

І вось палякі, знаючы словы закляцьця, што атчыняець дзьверы к сьвету, дзеляцца гэтымъ сокрытам за страшную цэну: за дэнаціоналізацію, за здраду родных братоў і мовы, за прылічэньне сябе да польскаго народу.

Гэты захопліваючый національізм мейсцовых палякоў, можэць быць, і мае мэту аслабіць кляссовые антагоцізмы меж літоўскім і беларускім мужыком з аднаго боку і панам палякам з другога. Але ён немінуча павінен быў давесьці да національнаго антагонізму, як толькі апалячываная масса стала дарастаць да пачуцьця сваей національнай асабнасьці, да національнаго самопачуцьця. І праўда, серэд літвіноў мы гэта бачым. У беларусаў, которые цяпер далёка ад національізму і національнай ненавісьці, гэта мы убачым не сягоньня, заўтра, калі толькі палітыка палякаў не пераменіцца. Да і тое самае можна сказаць аб адносінах беларускай массы да ра-

сейскай інтэлігэнціі у краі, которая складаецца найбольш з дэнацыяналізованных казённай школай беларусаў.

Як бачым, самые заядлые ворагі нацыяналізма і памежы палякаў і рассейцаў у нашым краю робяцца, мó і несведома, нацыяналістамі, шовіністамі; яны не прызнаюць для другіх аднаго адзінюткаго рацыональнаго і бесспорнаго способа прасьветы: прасьветы у роднай мове. У нас яны робяць у самай рэчы тое, с чым змагаюцца і у тэорыі і у самым жыцьці у другіх варунках і мейсцах. Гэтые людзі устрапянуліся бы да дна душы, калі бы нямецкі або расейскі пан у каралеўстві польскім стаў шырыць прасьвету у польскай вёсцы толькі у расейскай ці нямецкай мове.

Аднак той самы пан, папаўшы у Літву ці Беларусь вучыць літоўскіх і беларускіх дзяцей толькі ў польскай мове і ўсякіе протэсты літвіноў і беларусаў называець актамі шовінізма, ненавісьці да палякоў, чуць не чэрнасоценствам.

Так жэ сама очывіста, паступовые літоўскіе і беларускіе группы, ясно вядомые як антыклерыкальные, ўсе агулам палякамі віняцца у... клерікалізме, калі толькі яны асьмеляцца падняць голас на абарону праў роднае мовы у каталіцкім касьцёлі.

Ведама, у цяперэшнім часі у Літве дзе-недзе, у Беларусі усюды, у католіцкі касьцёл— разам з лацінскай—допушчэна адно толькі польская мова. Мова жэ народнай массы, літоўская, дзе гэта удаецца, а беларуская — усюды ігноруецца, ня гледзючы на дазволеньне з Рыму допускаць у касьцёл і «linguam vernaculam» —мову штодзенный гутаркі. Дзякуючы гэтаму р.-католіцкі касьцёл у нашым краю стаў сільнай прыладай, каб шырыць у народ польскую мову і польскую цывілізацію. Польская мова бытцым асьвячэнная касьцёлам, стала запраўды сьвятой у ваччу беларускаго мужыка і астаецца такой жэ сьвятой і у вялікай часьці Літвы, хаця там ужо борзда расьце нацыональнае самопачуцьцё. Увесьці у касьцёл заместа польскай мовы— мову народную, а такжэ ўвесьці гэтуж народную мову да ўсіх грамадзянскіх установ,



каторые абслужываюць просты народ — вось гэта апора нацыональной палітыкі беларусаў і літвіноў. Такое жаданьне ачывіста справедлівае. Усе палякі нашаго краю, ад зямельнаго буржуа да канцэвога соціаль-дэмократа, ад чэлавека шчыра набожнаго — да безбожніка, протэставалі бы проці пробы увясьці ў касьцёлы каралеўства Польскаго заместа польскай мовы якую небудзь другую. Аднак тые самюсенькіе палякі лічаць жаданьне беларусаў чуць родную мову ў касьцёлі чым то дзікім, актом беларускаго нацыональнаго шовінізму проціў палякоў—чуць-чуць не інтрыгай расейскаго ўраду..

Апісанные праявы драпежнай палітыкі краёвых палякоў да літвіноў і беларусоў, як мы ужэ казалі, рэзультат хвораго, нацыональнаго пачуцьця вырадзіўшагося ад ненормальных варункаў жыцьця краю

Аднак выясніўшы прычыны гэтаго з'яўленьня, лёгічны фундамэнт яго канешнасьці у даных варунках, мы гэтым не адбярэм усей шкоднасьці яго як для справы адраджэньня літоўскаго і беларускаго народу, так і для палякаў, так і для межнароднай згоды у краю.

Хіба каліб палякі як найхутчэй кінулі палітыку заваевацелёў, каліб яны сталі як трэба разумець свае павіннасьці да народнай массы — павіннасьці краёвай інтэлігэнціі—толькі тады можна думаць, што ня зродзіцца да палякаў глухая нацыональная ненавісьць. Пры цяпер трываючых варунках яна немінуча зродзіцца, а пакуль што у беларускаго народу яе нема, а у літоўскі яна урэпілась не так ужо глыбака. Польская інтэлігэнція Літоўска-Беларускаго краю можэць стаць поўнапраўнымі грамадзянамі толькі адрокшыся ад дзікаго вокліча: „мая земля—мая і народнасьць“.

Свайго часу депутат Государственнаго Савета Корвін-Мілеўскі чэлавек с шырокімі палітычнымі паглядамі у гутарцы с таварышамі аб Літоўско-Беларускай зямлі — сказаў такую характэрную рэч:

„Нешчасьце м,аё што мне прышлося представляць у Га-

суд. Савеце варты пагарды беларускі дэмос“. Не ў тым беда, што гэтымі славамі ён выразіў свае непрыхільные адносіны да беларускай народнай массы, чагож другога можна было чэкаць ад тыповага пана—феодала. Нас цікавіць тутака другая старана, вось гэты феодал, гэты выборны вялікіх зямельных паноў, палякаў краю, што сам так пагарджаець усякім дэмосам усёж такі чуець, што ён урэдстаўнік і гэтаго дэмосу.

Корвін-Мілеўскі як прэдстаўнік краю з усімі яго жыхарамі, вядома разумеў, што ён чым то зьвязаны з беларускім народамъ, што проціў усіх яго самых глубокіх антыпатій, ён моральна павінен дбаць аб справы і гэтай пагарджанай мужыцкай массы. Гэта яго дужэ мучыла і ён не стрымаўшы ужо злосьці—выліў яе у верхуменёных словах.

Ёсць ведама. могуць знайсьціся і такіе, што перэпыняць, быццам фраза Корвін-Мілеўскаго, довад того, што можна быць грамадзянінам краю і пагарджаць адначасна народную массу. Але такіе сумесьціны магчымы толькі у галаве прэдстаўніка струхлеўшаго фэодалізму. І калі цяперэшні краёвы кірунак серод палякоў будзець заплюшчываць вочы на національные пытаньня у нашым краю—то з гэтаго кірунку, як ясна з раней сказанаго, вылезець, праўду кажучы, таяж палітыка заваевацеляў, палітыка, што не даець у згодзе жыць і працаваць народам Літвы і Беларусі.

Тые самые жаданьня, которые мы можэм меці да палякаў, як да самай вялікай інтэлігэнтнай сілы, мы маем і да расейскай інтэлігэнціі краю.

Успамянуўшы аб гэтым мы вернемся да жыдоў, которых пакуль што пакінулі ў старане.

Гаворучы аб жыдох, мы ужо сказалі, што гэта народ у шырокім значэньні слова, народ пашчапаўшыся на кляссы. Серэд іх ідзе кляссовае змаганьне, як серэд кожнаго діфэрэнцованнаго народа. І інтэлігэнція раней за ўсё маець павіннасьці да сваей беднаты цёмнай, цемната і некультурнасьць каторай іншы раз горша за цемнату хрысьцянской беднаты.



Дзеля гэтаго нам і трудна гаварыць аб адносінах жыдоў, як національнаго цэлаго да нашаго краю і да народнасьцей, што у ім жывуць. Усёж такі у гэтых адносінах можна углэдзець нешта агульнае.

Раней за ўсё можна убачыць меж жыдоў два глаўные ідэйные кірункі. Адзін стараецца сваю будучыню умацаваць за граніцамі нашаго краю—гэта сіоністы і часьць грамады. што зусім дэнаціоналізовалась і прыняла расейскую мову, расейскую цывілізацію. Другі кірунак жыве найбольш серэд шэрай жыдоўскай массы, которая хаця і носіцца з ідэалам вярнуцца у „сьвятую зямлю“, ўсёж такі так зжылася, так зраслася з краем, дзе лежаць косьці іх бацкоў, што яны, як неаддзельная часьць краю, зьвязываець з ім сваю будучыню. Да гэтаго іх хіліць і акуратнае разуменьне іх экономічных карысьці: развіцьце жыдоўскай торговай і фабрыканцкае кляссы зьвязана крэпка з развіцьцем і узбагаценьнем краю. Але і серэд гэтай другой часьці жыдоў ёсьцяка дзьве группы: адна трымаецца сваей національнай культуры, другая кідаець яе для расейскай. Ёсьць ведама, ці будуць жыды трымацца свае національнай асабнасьці, ці кінуць яе—гэта іх жыдоўскае дзела. Але для нашаго краю маець вялікую вагу пытаньне, у які бок пахіліцца гэта справа.

Тутака важны ня толькі гэтые элементы расейскаго цэнтралізму, которые уносяць усюды жыды-ассыміляторы. Самае глаўнае тут тое, што жыды, як торговая і рэмесленная кляса стаяць дужэ блізка да народнай массы і дзеле гэтаго, калі, усе жыды зассімілюющца з расейскім народам, яны тады будуць пасрэднікамі у зрасейшчынні ешчэ пакуль што мала національна сьведомаго беларусскаго мужыка.

За гэта самае беларускі мужык, дарослы да національнай сьведомасьці, будзець аднасіцца да жыдоў проста такі як да ворагаў. А тые жыды, што трымающца сваей національной індывідуальнасьці — сваей мовы, як гэта мы бачым на практыцы, стыкаючыся з народам, шанующь яго індывідуальную асабліваcьць і ужываюць яго мову.

На гэтым полі ужо цяпер з жыдамі ассыміляторамі вадзяцца мейсцовые палякі. І хаця мы ня верым у магчымасьць дэнапіоналізацыі да канца шэрай жыдоўскай массы усёж такі лічым патрэбным зьвернуць увагу на тое, што вайна меж палякамі і зусім абрусеўшей жыдоўскай інтэлігэнцией с часам займецца сільным полымем: Прычына тае вайны— гэта глыбока уросшае перэкананьне — што наш край, гэта польская колёнія, што польская культура тут павінна панаваць, што прыход расейскай культуры гэта аткрыты паход проці палякоў. І толькі тады, калі наш край перэстанець быць у вачах тутэйшых палякоў „польскай провінцией“, а у вачах жыдоў: „расейской акраіной“, калі і тые і сіе зразумеюць сваё мейсцэ грамадзян самасільна развіваючагося экономічна і культурна краю — толькі тады національная вайна між імі знішчыцца да мінімум.

З усяго, што мы сказалі, можэм зрабіць адзін вывад: згодные, добрые адносіны між національносьцямі нашаго краю найбольш залежаць раней за ўсё ад адносін мейсцовых культурных кляссаў да народнай массы, ад тае ролі, якую возьмець на сябе расейская і польская інтэлігэнція у беларуска-літоўскай зямлі: ад таго, ці будзець яна лічыць сябе інтэлігэнцией запраўды краёвай і захочэ узяць на сябе лёгічна патрэбные павіннасьці, ці не. Але тое ці другое распутаньне гэтаго пытаньня ізноў такі неразрыўна зьвязана с паглядам на наш край як на нешта трываючэе само-сабой, ці як на „акраіну“ „колёнію“. І мы цьвёрда верым, што толькі шчыра дэмократычна сцямленая краёвая ідэя, у разуменьні выжэй выложэным, а не у разуменьні Корвін-Мілеўскаго і да яго падобных, можэць быць фундамэнтам для національной згоды на Беларусі і Літве.

*Антон Новіна.*

# BATRAK.

Apawiadańnie z życcia palešukoŭ.

Stohnie, płače i hałosić,
I hudzie Paleśsie;
Płač toj wiecier ŭ poli nosić,
Honie ŭ padniabieśsie;
Hłucha homan daletaje
Z lesu wiekawoha,
I ŭ tym homanie hłuchaja
Čujecca trywoha....
Les rakoče i bušuje,
Lesu ŭtorać łozy,
A nad hetym ŭsim panuje
Wiecier i marozy.
Tolki ž tym nie strašna bura,
Tym, chto ŭ ciopłaj chacie,
Hdzie jošć zapiek i piačura
Ciopłyje pałaci;
Hdzie tak wiesieła šuhaje
Korčyk na kaminku,
Hdzie kabiecina staraja
Ŭspomnić pra starynku,
I pačnie raskaz cikawy,
Jak daŭniej žyłosia,
Bo jej roznaj ŭ świecie sprawy
Świedkaj być pryšłosia.

* * *

U tumanie chawajecca dymčaty bierezniak z nizkarosłym sasniakom...

Siadzić Symon na kuli sałomy i dremie... Bielka chrapie i fyrkaje... Prytaiłasia noč da čornaj mokraj ziamlį Cicha... Cicha ŭ lesi, jak u mahili, i kanca jamu nima... Cicha, cicha...

*Lawon Chmury.*





# ATČOT SUPOŁKI

# „Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce"

*za 1910 i 1911 hady.*

## Balans rachunkaŭ supołki.

„Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce" na 15 wieraśnia 1911 h.

| AKTIŬ. | Rub. | K. | PASSIŬ. | Rub. | K. |
|---|---|---|---|---|---|
| Kasa . . . . . . | 51 | 05 | Siabrucki kapitał . | 1500 | — |
| Knihi (naličnaść) . | 2592 | 01 | Supolnicki kapitał . | 790 | — |
| Ruchomaść (mebli) | 37 | 00 | Zapasny kapitał . | 277 | 98 |
| Kommisionery . . | 2185 | 96 | Hultajski padatak . | 125 | 00 |
| Debitory . . . . . | 1129 | 44 | Kommitenty . . . | 777 | 27 |
| | | | Kredytory . . . . | 2525 | 21 |
| BALANS . | 5995 | 46 | BALANS . | 5995 | 46 |

## Ruch addzielnych składnych čaściej

za atčotny čas s 1 čerwienia 1910 h. da 16 wieraśnia 1911 h.

| | Było na 1 čerwienia 1910 hoda. | | Abarot za 1910 i 1911 hady. | | Jość na 15 wieraśnia 1911 h. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Debit. | Kredyt. | Debit. | Kredyt. | Debit. | Kredyt. |
| Siabrucki kapitał . | — — | 800 — | — — | 1500 — | — — | 1500 — |
| Supolnicki „ . | — — | 750 — | — — | 790 — | — — | 790 — |
| Zapasny „ . | — — | 21 21 | — — | 277 98 | — — | 277 98 |
| Hultajski padatak | — — | 76 — | — — | 125 — | — — | 125 — |
| Kasa . . . . | 27 49 | — — | 1279 38 | 1227 33 | 51 06 | — — |
| Ruchomaść . . | — — | — — | 37 — | — — | 37 00 | — — |
| Pieredpłata na B. P. | — — | 29 91 | 29 91 | 29 91 | — — | — — |
| Knihi . . . . . . | 1924 54 | — — | 5985 93 | 3393 92 | 2592 01 | — — |
| Kommisionery . . | — — | — — | 2185 96 | — — | 2185 96 | — — |
| Kommitenty . . . | — — | — — | — — | 777 27 | — — | 777 27 |
| Debitory . . . . | 2117 87 | — — | 2117 87 | 983 43 | 1129 44 | — — |
| Kredytory . . . . | — — | 2392 78 | — — | 2525 21 | — — | 2525 21 |
| | 4069 90 | 4069 90 | 10635 05 | 10635 05 | 5995 46 | 5995 46 |

Jak widać z hetaj tablicy massa majetnaści u rukach supołki wyrasła za hety hod z 4069,90 da 5995,46 heta značyć na 1925,56: jana składywajecca z:

| | | |
|---|---|---|
| Uniesienych siabrukami-hrašmi . . . . . Rb. 110,00 | | 700,00 |
| „ „ „ i pracaj . . . . . 590,00 | | |
| Uniesienych supolnikami-hrašmi . . . . . . . . . | | 40,00 |
| Adłožanych u zapasny kapitał . . . . . . 188,77 | | 256,77 |
| i nia wydanych dywidend 4% . . . . . 68,00 | | |
| Hultajskaho padatku . . . . . . . . . . . . . | | 49,00 |
| Danych nam na kammisiju knih . . . . . . . . . . | | 777,27 |
| i pažyčanych nam hrašmi i astatku pa rachunkach . . | | 192,43 |
| | Razam . . . . | 1955,47 |
| Za wyličeniem pahašenaj patpiski na B.P . . . . . . | | 29,91 |
| | Usiaho . . . . | 1925,56 |

| | | |
|---|---|---|
| Pracu pačali ŭ atčotnym hadu, majučy swaich i čužych wydańniaŭ u Supołce na . . . . . . . . . . . . | | 1924,54 |
| i na kammisiju zdanych . . . . . . . . . . . | | 988,43 |
| | Razam . . . | 2912,97 |

| | | |
|---|---|---|
| U atčotnym hadu wydali knih . . . . . . . . . . . | | 722,67 |
| » » » kupili » . . . . . . . . . . . | | 51,85 |
| Raznica pa rewizii i acence . . . . . . . . . . . | | 1089,81 |
| Uziali na kammisju . . . . . . . . . . . . . . | | 777,27 |
| Za wydańnia prošłych hadoŭ zapłacili . . . . . . . . | | 237,36 |
| Na sprawu «Dudki» i «Smyka» wydali . . . . . . | | 200,00 |
| | Usiaho . . . . | 3078,96 |

| | | |
|---|---|---|
| Wysłali na kammisiju . . . . . . . . . . 2003,53 | | 2991,96 *) |
| Z raniej wysłanymi na kammisiju . . . . . 988,43 | | |
| Pradali u Supołce . . . . . . . . . . . . . . . . | | 407,96 |
| | Razam . . . . | 3393,92 |

| | | |
|---|---|---|
| Astajecca u Supołce wydańniaŭ na . . . . . . . . . | | 2592,01 |
| « u kommisioneraŭ na . . . . . . . . . . | | 2185,96 |
| | Usiaho na . . . | 4777,97 |

| | | |
|---|---|---|
| Z ich | Swaich na . . . . . . . . . . | 4000,70 |
| | Čužych na . . . . . . . . . . | 777,27 |

*) Z hetaj ličby prodana na kammisii na . . . . . . . . 806,00



Wydana u atčotnym hadu nowych wydańniaŭ:

| | | Ekzempl. | Listoŭ. | Na summu, rub. |
|---|---|---|---|---|
| Ščyrońskie dažynki . . . . . . . . | | 4300 | 12900 | 205,80 |
| U domu lepiej . . . . . . . . . | | 4000 | 4000 | 77,60 |
| Kamedyi | Pašylisia ŭ durni . . | 200 | 800 | 264,27 |
| | U zimowy wiečer . . | 200 | 440 | |
| | Modny šlaehcink . . . | 200 | 300 | |
| | Swatańnie . . . . . . | 200 | 300 | |
| | Michałka . . . . | 400 | 800 | |
| | Pa rewizii . . . . . . | 400 | 800 | |
| Razam . . . . | | 9900 | 20300 | |
| U druku Pčoły . . . . . . . . . . | | 4000 | 32000 | 75,00 |
| Usiaho . . . . | | 13900 | 52300 | 622,67 |
| Na wydańuie Kalendara Naśąje Niwy na 1911 h. . . . | | | | 100,00 |
| Razam . . . . . . . . . . . . . . | | | | 722,00 |

Ruch na składzi:

| | |
|---|---|
| Našych wydańniań było za atčotny čas . . . | št. 21 |
| Čužych » » » » » . . . . | » 43 |
| U čuźych mowach » » » » . . . | » 23 |
| Razam . . . . | št. 87 |

Jak widać z wyżej pamieščenych tablic ruch u Supołce uzmahajecca, pamaleńku, ale ćwiorda, idučy u horu, i finansowaja starana, dziakujučy nieustannaj pracy jaje siabrukoŭ i ščyraj prychilnaj pomačy usich našych supolnikaŭ i dabradziejaŭ, katoryje nie žalejuć dla našej sprawy hrašej, pracy i wielmi žyčliwaj rady, jość wielmi zdarowaja i razwiwajecca krepka.

Pasyłajučy hety naš atčot wielmipawažanym našym Siabrukom, Supolnikom i Dabradziejom — urad Supołki ad usiaho serca dziakuje za prychilnyje rady, pracu i pomač Supołce i z jasnym wokam pahladaje na pryšłaść, wieručy, što i dalej nia budzieć niedastatku u čystych, ščyrych i pryjažnych biełaruskich sercach.

Za Supołku:

Staršyna *W. Iwanouski.*

Knihawod *H. Rožnouski.*

# Spis.



Okładka raboty H. M. Na joj dwa biełaruskije kaŭšy (karcy) spad Čašnik, s kollekcii J. Wołodkowiča i uzor s słuchaho pajasa s kollekcii Našaje Niwy.

Zastaŭki (winjetki) rysunku Własta z uzoroŭ słuckich pajasoŭ z kollekcii Własta i Našaje Niwy.

Cynkografskaja rabota okładki i zastawak Prokudin-Gorskaho. Adbita u drukarni K. Pientkoŭskaho. (W. Podjačeskaja 22.)

**Cena hetaho šsytka 1 rubiel.**

## Wypis s tawaryskaje umowy biełaruskaje wydawieckaje Supołki.

**„Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce“.**

Adres: Pieciarburh. Wasiloŭ wostraŭ 4-ja linja 45, kw. 16.

Tawarystwa maje metu drukawać i šyryć wydańnia biełaruskije i ŭsio, što stykajecca z życciom Biełarusi.

Tawarystwa składajecca s paŭnapraŭnych siabrukoŭ i supolnikaŭ.

Supolnikam może być kożny, chto zapłacić u kasu tawarystwa nia mienš za dziesiać (10) rub. Na hetyje hrošy jamu wydajecca supolnicki kwit.

Kożny supolnik maje prawa kuplać wydańnia Supołki s skidkaju 20%.

Supolniki nie miešajucca da haspadarki tawarystwa (nie wiaduć rachunkaŭ, nie patpisywajuć wekselaŭ) i nie atwiečajuć za jaho daŭhi.

Kożny supolnik maje prawa padawać hołas daradčy.

At čystaho sporu (prybytku) kożny hod adličajecca 15% u zapasny kapitał. Z astaŭšajesia čaści razdajecca usim siabrukom i supolnikom dywidend, ale nia bolś za 8% u hod.

Kożny supolnik maje prawa wyjści s tawarystwa i dastać swaje hrošy nazad, kali zachočeć. Ab hetym pawinien jon na piśmie uwiedamić za 6 miesiacaŭ da kanca hodu.

Chto choče, tamu może być wysłana poŭnaja towaryskaja umowa.

## U WYDAWIECTWIE
## „Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce"

(*С.-Петербургъ В. О. 4-ая л. № 45, кв. 16*).

**Možna kuplać wydańnia**

(Aznačennyje zorkaj — wydańnie našy, biez zorki — čužyje; aznačennyje *bis* — wyjšli i polskimi i ruskimi literami; ličby aznačajuć—pieršaja cyfra—numer addziełu, apošnije—numer čarodny u dannym addziele. Takim paradkam pry zakazach zamiesta ŭsiaho tytułu knihi dawoli napisać numer, a kali kniha wydana i takimi i siakimi literami — prypisać „ruskimi" ci „łacinskimi".

### I. Da nawučańnia:

№ knihi dla zakazu.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 11* | bis | Biełaruski lementar | Cena 6 | kop. |
| 12* | bis | Pieršaje čytańnie Ciotki | » 6 | » |
| 13* | | Друroe чытаньне. Коласа | » 25 | » |
| 14 | | Karotki katechizm | » 5 | » |

### II. Nawukowyje, dastupnyje dla usich:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 21* | | Гутаркі аб небі і зямлі z rys. | » 15 | » |
| 22 | bis | Cukier. W. Trojcy | » 3 | » |
| 23 | bis | Hutarki ab haspadarcy | » 3 | » |
| 24* | bis | Jak ratawać uzdutuju żywiołu | » 3 | » |
| 25 | bis | Jak baranicca ad halery | » 1 | » |
| 26 | bis | Jak rabić dobryje ramowyje wulli | » 5 | » |
| 27 | bis | Ziamielnaja sprawa u Nowaj Zelandyj | » 3 | » |
| 28 | bis | Ab haspadarcy na chutary i šnuroch | » 5 | » |
| 29 | bis | Karotkaja Historyja Biełarusi | » 60 | » |
| 210 | bis | Biełarusy i ich nacionąlnaje adradżeńnie | » 5 | » |
| 211 | | Bł. Andrej Bobola mučynik | » 5 | » |
| 212 | bis | Jak używać štučny nawoz. | » 2 | » |
| 213 | | Pčalina—żywiołka małaja, a karyści daje mnoha. | » 30 | » |

### III. Powieści, apawiedańnia prozaj:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 31 | | Дым—Конопницкай | Cena 4 | kop. |
| 32 | | Казкі | » 6 | » |
| 33 | bis | Gedali. E. Orzeszko | » 3 | » |
| 34 | bis | Kazka ab wadzie | » 6 | » |
| 35 | | Архіп і Лявонка. Горкаго | » 3 | » |
| 36 | | У дому лепей | » 4 | » |
| 37 | | Дзядзька Голад | » 2 | » |

### IV. Wieršy:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 41 | | Вязанка. Я. Лучыны | » 4 | » |
| 42 | bis | Taras na parnasie | » 5 | » |
| 43 | | Дзед Завала. Ядвігіна Ш. | » 5 | » |
| 44 | | Снапок, зборнік вершаў. А. Пауловіча | » 15 | » |
| 45 | | Адвечная песьня, абраз у XII з'явах. Я. Купалы | » 20 | » |
| 46 | | Песьні жальбы. Якуба Коласа. | » 30 | » |
| 47 | | Huślar, zbornik wieršoŭ. J. Kupały. | » 50 | » |
| 48 | | Кацярына. Т. Шэвчэнкі. | » 10 | » |
| 49* | | Жалейка. Зборнік вершаў. Я. Купалы | » 50 | » |
| 410* | | Pan Tadeuš. A. Mickiewiča, prerekł. Marcinkiewiča | » 25 | » |
| 411* | | Hapon, apowieść Marcinkiewiča | » 15 | » |
| 412* | | Wiečarnicy, apowieści Marcinkiewiča | » 15 | » |
| 413* | | Ščeroŭskije dażynki, Kupałła. Marcinkiewiča | » 20 | » |
| 414* | | Dudka biełaruskaja. M. Buračka. | » 25 | » |
| 415* | | Smyk Biełaruski. S. Reŭki | » 20 | » |

Uwaha: Pačynajučy ad Żalejki usio wydańnie jość i na darahoj papiery u pieknaj z biełaruskim uzoram wokładcy. Cena darahoha wydańnia dwa razy darażej za zwyčajnaje.

### V. Biełaruskije teatralnyje twory:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 51* | Модны шляхцюк, бытовая камэдыя ў 1-ым дзеі К. Каганца | 25 | kop. |
| 52* | У зімовы вечэр. Абраз Э. Оржэшко | 35 | » |
| 53* | Хам » » » | 70 | — |
| 54* | Сватаньне жарцік. Чэхова | 25 | » |
| 55* | Мядзьведзь » » | — | — |

56* Міхалка, камэдыя у 1 дзеі . . . . . . . . . . . . . 35 »
57* Па ревізіі Абраз у 1 » Кропівніцкаго . . . . . . . . 35 »
58* Пашыліся ў дурні. Абраз у 3 дзеях Кропівніцкаго . . . 60 »
59* Як яны жаніліся. Віннічэнкі . . . . . . . . . . . . . . — —

## VI. Biełaruskije muzykalnyje twory:

61 bis Bielaruski piesiennik z notami . . . . . . . » 15 »
62 Bielaruskije pieśni z notami I caść. Sabraŭ A. Hryniewič . . . . . . . . . . . . . . . . » 30 kop.
63 Bielaruskije pieśni z notami II caść. Sabraŭ A. Hryniewič . . . . . . . . . . . . . . . . » — »
Biełaruskije pieśni razłoženyje na 4 holasy: Adna pieśnia u 4-ch hałasoch . . . . . . . . . . » 10 »
kožny hołas. . . . » 3 »
64 Чамуж мне ня пець . . . . . . . . . . . . . . . . . .
65 Ой ляцелі гусі. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
66 Дый кудыж ты . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
67 Ой пайду я лугам. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
68 Ды ўжо сонейка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
69 bis A chto tam idzie. Pieśnia J. Kupały, muzyka Rogowskaho . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . » 10 »

## „Naša Niwa“ za hady

bis 1906 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 50 k.
bis 1908 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 2 r. 50 »
bis 1909 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 2 » 50 »
bis 1910 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 2 » 50 »
bis 1911 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 2 » 50 »
bis Bielaruski Kalendar 1910—1911—1912 h. . . . . . . . 15 »